# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ — ВІЛЬНЯ — БЕЛАСТОК

ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

*№ 33 (47)* *22—28 кастрычніка 1993 года* *Кошт 25 рублёў*


Як **ДЭПУТАТ ЛУКАШЭНКА** напалохаў гарадзенскае начальства.

**АРМІЯ КРАЁВА.** Гісторыя стварэньня і дзеі АК на Беларусі.

Новыя вершы **ДАНУТЫ БІЧЭЛЬ.** Адмыслова для «Пагоні».

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ** на тыдзень: Менск — Варшава — Масква.

## У апошні бой

У Маскве сьцішылася на час, і адразу пачалі прачынацца ўскраіны імпэрыі. Адчуваецца й ажыўленьне ў нас на Беларусі.

Станіслаў Шушкевіч зрабіў стаўку на Ельцына, а таму правадзіць сэсію ВС не сьпяшаецца. Трэба «добра падрыхтавацца», пакуль у Расеі выбары пройдуць. Ну а тым вольным часам, каб пра яго не забывалі, дый пазыцыю яшчэ раз пацьвердзіць, Станіслаў Станіслававіч схадзіў у госьці да Івана Каратчэні. Менск жа як ніяк сталіца СНД, трэба новы будынак каардынуючым органам пабудаваць...

Правячыя пракамуністычныя колы з лёгкім мацярком у бок сваіх маскоўскіх сяброў, якім увесь час не шанцуе, зноў загаварылі пра сувэрэнітэт.

«Союз афицеров Беларуси» вырашыў адмазацца ад свайго арыштаванага маскоўскага лідэра й выступіў у друку, маўляў: «Саюз зьяўляецца прыхільнікам дэмакратычнага строю і ў сваёй дзейнасьці кіруецца Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь...»

Тая частка хлопцаў і дзяўчаткаў, якіх моладзь ласкава называе «камсюкамі», так разгубілася з прычыны адмены 33-га свайго Зьезду ў Маскве, што вырашыла правесьці яго ў Менску ўжо ў другі раз.

А ў гэты самы час у калгасах і саўгасах ідзе бітва за ўраджай. Як і ў старыя добрыя часы, ў якасьці «пушачнага мяса» на гэтай вайне выкарыстоўваюцца студэнты. Натуральна, што ёсьць і першыя страты. За дэзэрцірства — адмовіліся дапамагаць калгасу пад цудоўнай назвай «Бальшавік» — выключаны з унівэрсітэту дзевяць другакурсьнікаў факультэту журналістыкі.

**Я. ДУБРОЎСКІ,**
**Менск.**




**ВІЛЬНЯ.** **Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

## Ці выдасьць Расея Летуве асобаў, якія падазраюцца ў падрыхтоўцы пераварота?

Пасьля таго, як у Маскве правалілася спроба сёлетняй «кастрычніцкай рэвалюцыі», гэнэральны пракурор Летувы Артурас Паўлаўскас зьбіраецца зьвярнуцца да новага гэнэральнага пракурора Расеі А. Казаньніка з прозьбай аб выдачы Расеяй асоб, якія зьвязаныя са студзеньскімі і жнівеньскімі падзеямі 1991 года ў Летуве. Такія спробы краіна прадпрымала і раней, але былы гэнэральны пракурор Расеі С. Сьцепанкоў адмовіў у выкананьні гэтага. Гэнэральны пракурор Летувы мяркуе, што гэтым разам Расея задаволіць прозьбу рэспублікі.

**Эльта.**

## Падробленыя літы

У Летуве выкрыта ўжо 28 фальшывых банкнот (па 100 — дзьве, 50 — дзевяць, 20—16,10 літаў — адна). Выяўлена таксама звыш 100 манет вартасьцю ў. 5 літаў, падробка іх выканана мэтадам ліцьця. Аб гэтым паведамляе газэта «Шальча».

**А. Д.**

## Зьліквідаваны шапік пракамуністычнай прэсы ў Вільні

Некалькі месяцаў на лесьвічнай пляцоўцы дома на вуліцы Пылімо ў Вільні прадавалі пракамуністычныя выданьні «День», «Советская Россия», «Правда», «Гласность» і іншыя. Свой шапік адчыніла нейкая «Роспа», якая зьнімала і памяшканьне дома, і падвал.

Шапік, верагодна, ня быў зьліквідаваны раней таму, што гэтыя выданьні было тады не забаронена выдаваць у Расеі. Забарона ж іх продажу магла б, напэўна, пагоршыць адносіны Летувы і Расеі. Калі ў Маскве скончыўся няўдачай кастрычніцкі дзяржаўны пераварот і гэтыя выданьні ў Расеі былі забаронены, у Вільні зьліквідавалі шапік пракамуністычнай прэсы. Паліцыя за гандаль у неадпаведным месцы пакарала кіяскёра штрафам у памеры 20 літаў.

**«Шальча».**

## Сьледчы дакляраваў замест па-беларуску размаўляць па-узбэцку

**Рэдакцыю «Пагоні» днямі наведаў старшыня Рады Гарадзенскай філіі БСДГ сп. М. Патрэба. Прапануем чытачам ягоны аповяд.**

15 кастрычніка а 9-й гадзіне раніцы ў маёй кватэры зазваніў тэлефон. Мужчынскі голас прадставіўся старшым сьледчым КДБ Музычэнкам і паведаміў, што яму вельмі хочацца са мной пагутарыць. Я адказаў, што гэтае яго жаданьне не падзяляю, а на тэлефонныя запрашэньні не хаджу, і паклаў трубку.

Праз некаторы час зазванілі ў дзьверы. Мажны малады чалавек уручыў мне позву, у якой мне прадпісвалася быць а 10-й гадзіне ў тав. Музычэнкі. Я разважыў, што ўсё ж давядзецца схадзіць, але пазьней, бо заставалася ўсяго з паўгадзіны часу.

У 10.05 ізноў тэлефонны званок. Той жа мужчынскі голас спытаў мяне, ці запэўніўся я ў тым, што ён зусім не жартаваў. Я сказаў яму, што раней паловы 12-й быць у яго не магу, бо з 12.30 да 20 гадзін праводжу заняткі ва унівэрсітэце.

У 11.30 я быў у будынку на вул. Тэльмана. Дзяжурны спытаў, ці я Жынь. Я сказаў, што па выкліку тав. Музычэнкі. Праз некальні хвілін зьявіўся даволі малады мужчына, які прадставіўся Музычэнкам. Ён павёў мяне па сходах ды калідорах некуды ўглыб будынка.

Калі мы з ім апынуліся ў нейкім пакоі, ён прапанаваў мне сесьці. Размова пачалася з таго, што я выказаў сваё зьдзіўленьне з тае прычыны, што прадстаўнік дзяржаўнай структуры не размаўляе на дзяржаўнай мове, калі ёю карыстаецца выкліканы ім чалавек. На гэта тав. сьледчы заявіў, што ён некалі вучыўся ў беларускай школе, але нібыта з прычыны доўгага часу існаваньня на Беларусі савецкай улады зусім развучыўся ёю карыстацца. Вось па-узбэцку ён мог бы хоць зараз, бо некалі ўдзельнічаў у рассьледваньні «баваўнянай» справы. Вось. А калі я не жадаю гаварыць па-расейску, дык мне давядзецца ўласнаручна пісаць свае паказаньні.

— Па якой справе паказаньні? — пацікавіўся я.

— Па справе забойства «Дмитрия Константиновича».

Я адразу ўцяміў, што ён меў на ўвазе былога старшыню аблвыканкама.

Мяне абурыла абсурднасьць сітуацыі, але ён гэтага зусім не зразумеў. Тады я сказаў, што ня буду пісаць аніякіх паказаньняў. Пачуўшы гэта, ён заявіў, што яму прыйдзецца выклікаць мяне як-небудзь іншым разам, калі ён знойдзе сабе перакладчыка з беларускай мовы.

Мне адразу падумалася, што лепей бы ім паклапаціцца пра падбор кадраў, чымсьці прыстаўляць да кожнага супрацоўніка па перакладчыку. Я аднак змаўчаў, сказаўшы толькі, што не жадаю з ім болей размаўляць наогул, а ўсё гэта расцэньваю, як спробу запалохаць або дыскрэдытаваць Грамаду, бо яна аніякага дачыненьня да гэтага злачынства ня мела й не магла мець.

Затым я сказаў, што жадаю выйсьці адгэтуль на волю, разьвітаўся й выйшаў на калідор. Ён хуценька выйшаў за мной, сказаўшы, што мяне без яго не выпусьцяць. Потым ён папрасіў пачакаць яго і прывёў двух чалавек, прадставіўшы іх як начальніка ці старшага сьледчага аддзела або групы (дакладна я не запомніў), а другога — пракурорам. Пракурор паспрабаваў прыгразіць мне крымінальнай адказнасьцю за адмову даваць паказаньні. У адказ я выказаў зьдзіўленьне тым, што яны таксама ня ўмеюць размаўляць па-беларуску, на што яны пачалі гаварыць да мяне на трасянцы.

Я зноў сказаў, што не жадаю з імі размаўляць і хачу на волю. Мне давялося паўтарыць свае словы некалькі разоў. Давялося сьледчаму прайсьці са мной і выпусьціць на вуліцу...

У той жа дзень сьледчы па тэлефоне выклікаў і старшыню Гарадзенскай Рады БНФ сп. К. Жыня. Аднак яны таксама дамовіліся, што паколькі Жынь гаворыць толькі на дзяржаўнай мове, дык сьледчы будзе пакуль шукаць перакладчыка і тады ўжо выкліча яго.

18 кастрычніка па выкліку сп. Жынь зноў наведаў дом на вул. Тэльмана. Яму давялося распавесьці сьледчаму, што нябожчык уваходзіў у парлямэнцкую фракцыю «Беларусь», растлумачыць свае погляды на тое, што такое сувэрэнітэт і як трэба жыць і гаспадарыць у сувэрэннай дзяржаве. Сьледчы запісваў за ім паказаньні.

Дарэчы, сьледчы патлумачыў, што за адмову ў дачы паказаньняў можна атрымаць да 6 гадоў зьняволеньня. Ён таксама паведаміў, што выкліканых асобаў ня могуць прыцягнуць да адказнасьці, як лідараў палітычных партый, а толькі як прыватных асобаў. Цікава тады, чаму з 280 тысяч гарадзенцаў паклікалі на допыт не Казіка ды Івана, а нас — Жыня з Патрэбай.

На допыт таксама выклікалі сп-ню Селязьнёву, лідэра грамадзка-палітычнага аб'яднаньня імя Кастуся Каліноўскага





# *ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА*

# Як нардэп Лукашэнка напалохаў гарадзенскае начальства

**12 кастрычніка ў Горадні адбыўся сэмінар-нарада па барацьбе с карупцыяй і арганізаванай злачыннасьцю. З усёй вобласьці зьехаліся старшыні райвыканкамаў, начальнікі міліцыі, пракуроры. Нарада адбылася ў зале паседжаньняў аблвыканкама, куды былі дапушчаны ўсе ахвотныя.**

**З дзяржаўных сымболяў толькі Пагоня аздабляла трыбуну. Сьцяна ззаду прэзідыума была завешана заслонай, таму немагчыма было даведацца, ці на месцы сьцяг і аграмадны белы голаў Леніна.**

Пачалася нарада даволі млява. Загадчык вабласнога аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасьцю спадар Жыдок напачатку доўга пералічваў прозьвішчы дробнай «плоткі», якая трапілася ў нерат да ахоўнікаў закону, ажно ў залі сталі пасьміхацца. Называліся, да прыкладу, прадаўшчыца крамы Навагрудзкага раёна, якая прадала некаму 68 кг масла, або несумленная загадчыца пяльменнай з Ваўкавыску... Зрэшты, надыйшоў час і буйнейшай «рыбы». Напрыклад, службовая асоба вабласнога выканаўчага камітэту спадар Сяргей атрымаў хабар з 500 амэрыканскіх даляраў і быў засуджаны. Але наогул прамоўца яўна стараўся не называць гучныя прозьвішчы, скардзіўся на недахоп сьледчых у сваім аддзеле.

Затым гаварыў начальнік аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю спадар Жарабіла. Па-першае, ён адразу запярэчыў свайму папярэдняму калегу. Галоўнае зусім не ў недахопе людзей, а ў старым заканадаўстве, у якім можна вычытаць пра бандытызм, але з карупцыяй або арганізаванай злачыннасьцю ў ім усё расплывіста. Трэба дакладна распісаць: калі гэтага, дапусьцім, нельга рабіць, значыцца, нельга, і ўсё.

Бо ўзяць, напрыклад, нябожчыка Арцыменю, нядаўняга старшыню вабласнога Савета народных дэпутатаў. Можа, й кашчунна пра гэта цяпер гаварыць, сказаў спадар Жарабіла, але ж дзейнасьць ягонай жонкі ў якасьці дырэктаркі ювэлірнай крамы мела ў горадзе адмоўны рэзананс. Малодшы сын Арцымені, яшчэ будучы студэнтам II-га ці III-га курсу мэдыцынскага інстытуту, зьяўляўся членам выканкаму вабласнога аддзяленьня арганізацыі «Дактары за папярэджаньне ядзернай вайны». Другі сын апынуўся сярод заснавальнікаў камэрцыйнага банка «Комплекс». Карацей, атрымалася, як у старой прымаўцы: што дазволена Юпітэру, тое не дазволена быку, але ўсе, натуральна, маўчалі. Дзіва што, бо Арцыменя ад парлямэнцкай фракцыі «Беларусь» прэтэндаваў нават на будучую пасаду прэзідэнта краіны.

Асаблівы шарм нарадзе надала прысутнасьць нардэпа Лукашэнкі, які змагаецца з карупцыяй у складзе спэцыяльнай камісіі Вярхоўнага Савету.

Напярэдадні, у панядзелак, Лукашэнка па беларускім тэлебачаньні гнеўна выкрываў службовых асобаў за паважныя злоўжываньні сваім становішчам, а таксама й за ўсякую дробязь. Напрыклад, у міністэрстве замежных спраў адначасова сьпісалі ў акце 3 біблії і 2 куфэркі, падораныя Рымскаму Папу, а таксама 5 бутэлек гарэлкі. Усе гэтыя факты, прычым, якія сапраўды датычаць высокіх службовых асобаў, Лукашэнка паўтарыў і перад гарадзенцамі.

Наогул, выступаў ён па-пракурорску, гняўліва, гучна, часам беспардонна. Цікава, што на нараду не зьявіліся вабласныя начальнікі ўпраўленьняў унутраных спраў і Камітэта дзяржбясьпекі, што вельмі абурыла сталічнага госьця, які паабяцаў назаўтра ж выклікаць іх на кілім у Менск. Давялося прадстаўніку кіраўніцтва аблвыканкама спадару Калацэю ратаваць становішча, тлумачачы, што ў таварышаў Гудзея ды Сьцепаненкі ёсьць паважныя прычыны, і яны адпрасіліся з мэрапрыемства. Ён таксама дадаў, што ня варта абвастраць становішча, а трэба наадварот папярэдзіць незаконныя ўчынкі, засьцерагчы службовых асобаў у райвыканкамах ад турмы.

Перад гэтым нардэп Лукашэнка папярэдзіў, што ён марыць стварыць інстытут адстаўкі службовых асобаў. Камісія Вярхоўнага Савету па барацьбе з карупцыяй мае надзвычайныя паўнамоцтвы. Лукашэнка сказаў: «Мы акул ловить не собираемся, их ловят в море. Будет распоряжение — выловим. Их предостаточно видно и невооруженным глазом. Но я не хочу заниматься идиотизмом и пожирательством кадров». Затым Лукашэнка напалохаў намесьніка старшыні аблвыканкаму спадара Калодку, які таксама ўдзельнічае ў камэрцыйным банку «Комплекс». Пачырванелы Калодка ўзабраўся на трыбуну й спрабаваў апраўдвацца.

Нардэп Лукашэнка ня быў бы самім сабой, каб напрыканцы не залез у палітыку. Ён сказаў: «Мы будем бороться против идей. А насчёт построения капитализма в Белоруссии, так люди с вяло текущей шизофренией и не то могут предложить». Жадаючы, мабыць, бліснуць уласнай эрудыцыяй, Лукашэнка выказаў і такі пэрл: «Я здесь не впадаю в прострации и амбиции».

Яўна жадаючы паказаць, што ён непадкупны суддзя, які ні за БНФ, ні за ўрад, ні за Шушкевіча, Лукашэнка пра нядаўні Зварот апазіцыі БНФ да кіраўніцтва Беларусі сказаў наступнае: «Из бункера БНФ был отправлен в бункер Шушкевича факс с повесткой дня, как уничтожить этот Верховный Совет». Дарэчы, у гэтым самым звароце фігуруе, апроч іншых, і прозьвішча самога Лукашэнкі, якога прапануецца пазбавіць дэпутацкіх паўнамоцтваў за магчымы ўдзел у падрыхтоўцы маскоўскага путчу.

Дарэмна ён усё гэта гаварыў, бо людзі ў залі сабраліся зусім ня глупыя. Таму, калі напачатку яны захапіліся выкрываўчым пафасам і фактурай выступленьня нардэпа Лукашэнкі, дык напрыканцы ўжо пакеплівалі з недарэчнасьцяў, якімі была перасычана ягоная прамова.

**Р. МЕНДЖЫБОЎСКІ.**

# ЗАЯВА Рады Гарадзенскай філіі БСДГ

15 кастрычніка г.г. старшыня Рады Гарадзенскай філіі БСДГ сп. Міхал Патрэба быў выкліканы ва Упраўленьне КДБ па Гарадзенскай вобласьці на допыт па справе забойства старшыні Гарадзенскага аблвыканкама сп. Зьміцера Арцымені. Сп. М. Патрэба адмовіўся даваць паказаньні, палічыўшы гэты допыт палітычнай правакацыяй.

У сувязі з гэтым Рада Гарадзенкай філіі БСДГ заяўляе наступнае:

Усякія спробы прычыніць якім-небудзь спосабам БСДГ да жудаснага крымінальнага злачынства — забойства чалавека,— выклікаюць справядлівы гнеў і абурэньне.

Выклік на допыт у КДБ старшыні Рады Гарадзенкай філіі БСДГ, як і лідэраў іншых дэмакратычных арганізацый, Рада філіі расцэньвае як палітычную правакацыю, як спробу якім-небудзь чынам скампрамэтаваць Грамаду і іншыя адраджэнцкія арганізацыі ці запалохаць іх.

Амаральнасьць выкарыстаньня крымінальнага злачынства ў палітычных мэтах відавочна.

Гэтая правакацыя сьведчыць аб тым, што нехта ўпарта ўцягвае дзяржаўны орган, які павінен стаяць на абароне дзяржаўнай бясьпекі, ва ўнутрыпалітычныя спрэчкі. Яна выглядае тым больш злавеснай, што чырвона-карычневыя на Беларусі безпакарана працягваюць сваю разбуральную дзейнасьць супраць беларускай дзяржавы.

**Рада Гарадзенскай філіі БСДГ.**

# Беларуская прысяга

**Напачатку кастрычніка ў Менскай акадэміі міліцыі адбылася значная падзея — прымалася прысяга.**

Прыкладна а 10 гадзіне раніцы на пляцы перад навучальным корпусам акадэміі роўнымі калёнамі выстраіліся навабранцы (дарэчы, сёлета іх каля 400 чалавек), а побач згуртаваліся іх родныя і з хваляваньнем назіралі, як упершыню па-беларуску прымаюць прысягу іх дзеці.

Урачыстасьць адкрыў гэнэрал-лейтэнант Савічаў, які запэўніў, што ўвесь асабісты склад акадэміі і пэдагогі будуць прыкладаць усе намаганьні, каб выхаваць з навабранцаў сапраўдных прафэсіяналаў, на што адзін з гэтых жа самых навабранцаў А. Башан адказаў, што «молодые в грязь лицом не ударят». Слова таксама трымаў і старшыня савета вэтэранаў акадэміі гэнэрал-маёр міліцыі М. Зырын.

Пасьля ўрачыстай цырымоніі прыняцьця прысягі прысутным была прапанавана цікавая праграма. Бацькі мелі магчымасьць наведаць аўдыторыі, дзе адбываюцца заняткі, і інтэрнаты, дзе разьмясьціліся іх дзеці, таксама паслухаць выступленьне таго ж гэнэрал-лейтэнанта Савічава, у якім асьвятляліся ўсе бакі сістэмы навучаньня ў акадэміі. Праграма налічвае каля 45 дысцыплін і гэта калі не лічыць усіх практычных заняткаў.

Затым усіх запрасілі на канцэрт і сьвяточны абед.

Сваімі ўражаньнямі з хваляваньнем дзялілася адна са слухачоў акадэміі, будучы афіцэр ворганаў унутраных спраў, юрыст, дарэчы, гарадзенка, выпускніца СШ № 17 В. Жэляхоўская. Яна паведаміла, што дагэтуль у Менску існавалі Вышэйшая і сярэдняя школы міліцыі. Але ў мінулым годзе гэтыя дзьве ўстановы аб ´ядналіся ў адну вышэйшую. Такім чынам, сёлета — гадавіна акадэміі, па сканчэньні якой курсанты будуць атрымліваць ня толькі міліцэйскія пагоны, але й дыплём аб вышэйшай юрыдычнай адукацыі, якая адрозьніваецца ад унівэрсітэцкай больш значнай глыбінёй ведаў, за кошт ня толькі вялікага ахопу дысцыплін, а і практыкі. Вось такая падзея адбылася ў Менску крыху больш 2-х тыдняў таму.

На жаль, сродкі масавай інфармацыі вельмі стрымана на яе адгукнуліся (усё абмежавалася 2-3 радкамі ў газэце «На страже Октября» і некалькімі словамі па мясцоваму тэлебачаньню). Таму «Пагоні» хацелася б запоўніць гэты прабел і яшчэ раз, хоць і са спазьненьнем, павіншаваць юнакоў і дзяўчат з іх сьвятам.

Хацелася б спадзявацца, што, дзякуючы ведам, атрыманым у новай акадэміі, беларускія міліцыянты значна падымуць узровень прававой сістэмы нашай краіны, якая пакуль, на жаль, яшчэ вельмі далёкая ад эўрапэйскай.

**Аксана МАРЦУЛЬ.**

# Стрэлы ў Вільні

На мінулым тыдні ў аўторак у раёне Фабіёнішкі г. Вільні дзьвума стрэламі ў галаву і адным у сьпіну побач з сваім домам быў забіты намесьнік галоўнага рэдактара газэты «Рэспубліка» Вітас Лінгіс.

Сьведкі паказалі, што бачылі двох маладых людзей у масках і скураных куртках, якія адразу ўцяклі. На месцы злачынства былі знойдзены гільзы ад пісталета «Макарава».

Вітаса Лінгіса адвезьлі ў рэанімацыю, але ратаваць яго жыцьцё было ўжо позна.

Як паведамілі летувіскія газэты, В. Лінгіс з групай сваіх рэпарцёраў неаднойчы друкаваў вострыя матэрыялы, што датычаць мафіёзных арганізацый у Летуве. Акрамя таго, ён ня толькі пісаў, але і шмат што ведаў.

Неаднойчы ў рэдакцыю тэлефанавалі пагражалі журналістам і намесьніку рэдактара асабіста, хоць апошнім часам пагрозаў не было. Да таго ж ўсе ўжо звыкліся з такімі званкамі, і ніхто не надаваў ім увагі.

На думку калегаў Вітаса Лінгіса, прычына забойства, хутчэй за ўсё, у матэрыялах, якія былі ім надрукаваны яшчэ ў студзені. Дарэчы, яшчэ ў мінулым годзе рабіліся спробы ўзарваць яго аўтамабіль і спаліць дом у прыгарадзе Вільні.

Калегі Вітаса Лінгіса, а таксама Саюз журналістаў Летувы запатрабавалі ад уладаў прыняць самыя рашучыя меры, каб гэта злачынства было раскрыта. Як высьветлілася, пастаянныя тэлефонныя пагрозы раздаюцца і ў іншых летувіскіх газэтах, а паліцыя ў такіх выпадках застаецца бездапаможнай.

**По матэрыялах летувіскіх газэт падрыхтаваў**

**М. МІКАЛАЙЧЫК.**

# Замяніць капэбоўскі саўмін!

16 кастрычніка ў Менску адбылася канфэрэнцыя некамуністычных і антыімпэрскіх сілаў Беларусі. Даклад пра палітычнае становішча ў краіне прачытаў сп. З. Пазьняк. Сход быў вельмі прадстаўнічы. Апроч партый і шматлікіх рухаў у ім удзельнічалі прадстаўнікі нацыянальных меншасьцяў.

Канфэрэнцыя прыняла два дакумэнты — «Пра стварэньне пераходнага кааліцыйнага ўраду і новыя выбары» і «Пра абарону дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі». У першым з іх гаворыцца, між іншым, наступнае: «Гарантам правядзеньня вольных, дэмакратычных выбараў павінен стаць пераходны кааліцыйны ўрад. Задача гэтага ўраду — не дапусьціць вакууму ўлады, развалу гаспадаркі, страты незалежнасьці Беларусі, захаваць грамадзкае паразуменьне ў краіне на час да новых выбараў, да сфармаваньня легітымнага парлямэнту і прызначэньня новага ўраду Беларусі».

**П. ГРЭЦКІ.**

# ЭМІГРАЦЫЯ

## Беларуская Аўстралія






**(Пачатак у № 32).**

З палітычнага пункту гледжаньня ўсе беларускія арганізацыі і большыня нашых эмігрантаў у Аўстраліі стаялі непахісна на плятформе ідэі незалежнасьці Беларусі. Аднак што тычыцца дзейнасьці і працы за дасягненьне незалежнасьці, дык тут былі вялікія разьбежнасьці. Былі нават людзі, каторыя стаялі за поўным асіміляваньнем і не лічылі патрэбным актыўна працаваць на карысьць вызваленьня Беларусі, гаворачы, «навошта, каб яны зналі, што мы беларусы»...

Вось чаму, калі ў 1975-м годзе, гэта азначае, болей, як 25 гадоў пасьля прыезду ў Аўстралію большыні беларусаў, Фэдэральны Урад пастанавіў праверыць і сьпісаць усе ведамыя і актыўныя эміграцкія арганізацыі, дык аказалася, што на ўсёй вялікай тэрыторыі кантынэнта была знаная толькі адна арганізацыя беларускіх эмігрантаў, менавіта Беларускае Аб ʼяднаньне Аўстраліі і таксама адна царква ў г. Адэляйдзе пад юрысдыкцыяй Сыноду Беларускай Аўтакэфальнай Праваслаўнай Царквы.

У 1959-м годзе кіраўніцтва Беларускага Аб ʼяднаньня пастанавіла выйсьці на міжнародную ніву. Алесю Алехніку было даручана навязаць сувязь і атрымаць права на ўдзел беларускіх прадстаўнікоў у міжнародных канфэрэнцыях з тым, каб з вышыні міжнародных трыбунаў усьведамляць сьвет пра Беларусь і здабываць для Беларусі, прынамсі, маральна-дыпляматычную дапамогу ад другіх народаў сьвету. У 1965-м годзе Алесь Алехнік упершыню выляцеў з Аўстраліі на міжнародную канфэрэнцыю ў г. Манылла, Філіпіны, дзе ён, нягледзячы на тое, што быў на канфэрэнцыі ў ролі абсэрватара, браў актыўны ўдзел у працы канфэрэнцыі, навязваў сувязь з дэлегатамі розных краін сьвету.

Магчыма, найбольшым доказам таго посьпеху, якім карысталася беларуская дзейнасьць на міжнароднай ніве, сьведчыць той факт, што ўжо ў 1971-м годзе на 5-м Кангрэсе міжнароднай арганізацыі ВАКЛ была аднагалосна падтрымана «Рэзалюцыя па незалежнасьці Беларусі», якая была канчаткова зацьверджана Пленумам Кангрэсу пад № 32 і ў якой, між іншым, гаворыцца, што «усе бяручыя ў канфэрэнцыі ўдзел народы пацьвярджаюць права Беларускага народу на незалежнасьць і прыракаюць яму дапамогу ў змаганьні за дасягненьне гэтай незалежнасьці...»

Унутранае жыцьцё беларускіх эмігрантаў таксама ішло наперад даволі добрым тэмпам. Беларуская грамадзкасьць набывала сабе грамадзкую маёмасьць. У Сыднэі, Адэляйдзе, Мэльбурне і Пэрце беларусы пакуплялі сабе грамадзкую або царкоўную маёмасьць, дзе адбываліся і адбываюцца ўсе падзеі, зьвязаныя з жыцьцём і дзейнасьцю беларускай грамадзкасьці ў гэтых гарадах.

У 1976-м годзе праз радыё 2ЕА у Сыднэі пачаліся таксама першыя рэгулярныя беларускія радыёперадачы пад умелым кіраўніцтвам Міхася Лужынскага, каторы цешыцца поўнай падтрымкай беларускага грамадзтва і каторы рыхтуе перадачы аж да сёньняшняга дня. Пачынаючы з 1984-га году, беларусы сталіцы штату Заходняя Аўстралія — Пэрта, таксама арганізавалі свае рэгулярныя радыёперадачы праз радыё 6NR, якія цешацца вялікай папулярнасьцю і якія працягваюцца без перапынку да сёньняшняга часу.

Пад канец 70-х гадоў усе беларускія арганізацыі ў Аўстраліі ўвайшлі ў «Фэдэральную Раду Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі» і пачалі таксама арганізоўвацца (спачатку штогод, а пасьля што два гады) сустрэчы беларусаў Аўстраліі, якія адбываюцца пераважна падчас Калядна-навагодніх сьвятаў, падчас якіх беларусы з розных куткоў Аўстраліі спатыкаюцца ў сяброўскай атмасфэры і накідаюць пляны на будучую дзейнасьць.

З надыходам доўгачаканага нацыянальнага ўздыму і змаганьня за вызваленьне Беларусі на Бацькаўшчыне, беларускія арганізацыі таксама пашырылі сваю дзейнасьць, і Беларускае Аб ʼяднаньне Аўстраліі ў красавіку 1989 года выдала на ангельскай і беларускай мовах асобнае Асьведчаньне, якое было асабіста ўручана карэспандэнту ТАСС у Аўстраліі сп. А. Вароніну. У ім гаворыцца, што «аўстралійцы беларускага паходжаньня поўнасьцю падтрымоўваюць змаганьне беларускага народу за незалежнасьць Беларусі» і ёсьць зварот да правадыроў СССР прысьпешыць тэмпы аднаўленьня незалежнасьці Беларусі.

Праз Фэдэральную Раду Беларускіх Арганізацыяў пачалося зьбіраньне грошаў на дапамогу тым беларусам, каторыя пацярпелі ад чарнобыльскай аварыі, і сучасны старшыня Фэдэральнай Рады сп. Аўген Груша асабіста завёз на Беларусь тыя лекі, якія былі закупленыя беларусамі Аўстраліі.

Алесь Алехнік ад імя Беларускага Аб ʼяднаньня Аўстраліі зьвярнуўся факслістамі да правадыроў такіх краін сьвету, як ЗША, Вялікабрытанія, Новая Зэляндыя і іншых, з заклікам даць Беларусі дыпляматычнае прызнаньне, што і было зроблена з Аўстраліяй і іншымі краінамі ў чацьвер, 26-га сьнежня 1991 г.

З часу аб ʼяўленьня незалежнасьці Беларусі шмат аўстралійцаў беларускага паходжаньня ўжо езьдзілі на Беларусь, а новыя беларускія эмігранты пачынаюць прыяжджаць у Аўстралію на сталае жыцьцё, а таксама беларускія дзецічарнобыльцы наведваюць яе для патрэбнага ім адпачынку і лячэньня.

**Ад рэдакцыі: Гэтыя матэрыялы ласкава прадастаўлены нам кіраўніцтвам Беларускага Аб ʼяднаньня Аўстраліі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Алесь Алехнік нясе табліцу «Беларусі» міжнароднага паходу праз г. Сыднэй, Аўстралія ў 1968 г.; Ванда Тамашэўская і Алесь Алехнік рэпрэзэнтуюць Беларусь у г. Сыднэй у 1961 г.**

# ВОДГУКІ

## «Хочам панства ў вашай хаце»

У «Пагоні» з дня 30.07.93 г. быў надрукаваны артыкул З. Пазьняка «Хочам панства ў вашай хаце».

Але ж хата, у якой мы жывём, г. зн. Беларуская дзяржава, гэта хата і НАША, АГУЛЬНАЯ. Мала таго, усе мы, згодна з арт. 2 Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце, у аднолькавай ступені зьяўляемся яе паўнапраўнымі гаспадарамі, складаючы беларускі народ. І справы ў НАШАЙ хаце — НАШЫ! Таксама «госпад і паноў», як і «спадароў».

Дзіўна, што адмаўляючы права на палітычную дзейнасьць (якой яны, зрэшты, не вялі і не вядуць) каталіцкім сьвятарам, аўтар нічога не ўспамінае пра сапраўдную палітычную дзейнасьць іерархаў праваслаўнай царквы аж у Вярхоўным Савеце, дзе засядае разам з імі і сам аўтар.

А ўжо падтрымліваць на выбарах камуністаў для касьцёла было б не толькі безпрынцыпова, але і безсэнсоўна. Я сам выступаў кандыдатам на выбарах па сьпісках «дэмакратаў», а Саюз Палякаў быў у дэмблоку «Саветы-90». Таму цяжка згадзіцца, што на выбарах польскія арганізацыі падтрымалі камуністаў, а не дэмакратаў. Відавочна чарговае навешваньне ярлыкоў.

Сёньня проста назваць кагосьці «дэмакратам», або «намэнклятурным камуністам» ужо выразна замала. Сёньня хто ёсьць хто, можна пазнаць па справах, у тым ліку і па артыкулах.

Вялікую тэму для роздуму далі нам паводзіны тых дэпутатаў, хто называе сябе дэмакратамі, пры абмеркаваньні і прыняцьці Закона аб нацыянальных меншасьцях. Мы маем наглядныя прыклады, калі нават у вельмі высокіх інстанцыях улады «дэмакраты» у вялікай згодзе з «нацыянальна-сьвядомымі камуністамі» супрацьстаяць нашаму нацыянальнаму адраджэньню.

Аўтар хоча прадставіць маё выступленьне ў абарону нашых правоў на канфэрэнцыі па талерантнасьці ў Менску — як пагрозы. Цяжка пагадзіць гэта са здаровым сэнсам, бо менавіта я зьяўляюся аўтарам адозвы II Зьезду Палякаў да палякаў, беларусаў і грамадзян іншых нацыянальнасьцяў, якую даслаў амаль да ўсіх газэт.

З павагі да народа-брата мая прамова на канфэрэнцыі адбылася на беларускай мове. Цяжка спалучыць гэтыя факты. Тлумачыць гэта можна толькі скажэньнем аўтарам артыкула інфармацыі. Чаго-небудзь, што было б тут незразумелым, няма.

Дарэчы, ніхто з удзельнікаў, у тым ліку і заграніччных, не ацаніў маё выступленьне, як пагрозу. Ды і навошта? А мо ўжо каму спатрэбіліся ворагі, якіх пакуль што аўтар называе «недабразычлівымі»?

Я асабіста вельмі паважаю аўтара і не раз бараніў яго і нашу агульную справу. Гэты ж артыкул змусіў унесьці пэўныя карэктывы ў існуючыя ацэнкі, тым больш, што з апошняга слупка выразна відаць, хто каму пагражае.

Вельмі істотным зьяўляецца тое, каго аўтар мае на ўвазе, папярэджваючы «звужэньнем» пэрспэктывы.

Мяне асабіста ці ўсіх палякаў на Беларусі?

Мае пэрспэктывы няма сэнсу агаворваць, а звужэньнем пэрспэктыў нам, палякам, не пагражаюць ужо нават былыя і цяперашнія камуністы. Ды і на дварэ ўжо канец XX стагоддзя. Ігнараваць гэта ўжо проста немагчыма.

Вяртаючыся да «камуністаў» можна нагадаць, што кіраўнікоў Беларускага грамадзка-культурнага таварыства ў Беластоку таксама называюць камуністамі, прычым свае.

Але ёсьць справа найважнейшая. Мы на працягу колькі ўжо гадоў стараліся высьвятліць, хто аўтар агіднага цкаваньня нас, палякаў, нашай мовы ў касьцёле, каталіцкіх сьвятароў. Камуністы і былыя камуністы выразна ўхіляліся ад канкрэтнага адказу, «публіцысты» у разьлік не прымаліся. І тут на табе, такі падарунак. Расстаўлены ўсе кропкі над «і». Тут можна было б дадаць некалькі трапных прымавак, адпавядаючых моманту, але ня варта.

Цяпер я з поўным правам і падставай скончу ліст да Папы Рымскага Яна Паўла II аб нашай і каталіцкага касьцёла на Беларусі сітуацыі і просьбай аб абароне нас ад сіл, чыя дэмакратычнасьць выразна стала пад знакам запытаньня.

З гэтага пункту гледжаньня артыкул стаў уровень з артыкуламі сумна вядомых Сідарэвіча «Забастоўка ў Вярэйках або яшчэ Польска не згінэла» (ЛіМ); Клімовіча «Паляк другога гатунку» («Бярозка»); лістамі камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаваньню гістарычнай спадчыны № 500/1717 з дня 11.02.92 г. і № 20-5/34 з дня 20.02.92 г. Гэта дакумэнты, якіх аўтары павінны саромецца. Дзяржава саромеецца ўжо.

Што датычыць «польскіх ксяндзоў», то падзякі за выратаваньне ня толькі душ, але і саміх касьцёлаў як помнікаў дойлідства — спадчыны Беларускай дзяржавы, ад «дэмакратаў», яны, відаць, не дачакаюцца.

І апошняе. Дасьведчаньне літоўскага «Саюдзіса» і яго лёс яшчэ раз засьведчылі, што свабода і антыкамунізм яшчэ не зьяўляюцца адпаведнікамі дэмакратыі.

**Тадэвуш МАЛЕВІЧ,**
**г. Горадня.**

P. S.: **Апошнія падзеі ў Азэрбайджане і Польшчы дадалі тэм для роздуму. Ці пойдзе толькі гэта на карысьць!**

## «А што на «крэсах» магло зьмяніцца?»

«Уж сколько раз твердили миру...»

Перефразировав известное нам изречение, можно сказать: «Уж сколько раз твердили «ЛіМу»!»

И не только «ЛіМу».

«Наша решительность защиты своего достоинства, принятие закона «О национальных меньшинствах в РБ» и тот факт, что Прокуратура Республики с честью определила в этом своё отношение, привели к тому, что средства массовой информации очистились от антипольского шовинистического угара и истерии».

З палёгкай трэба сцьвердзіць, што ў вялікай ступені ачысьцілася атмасфэра вакол польскіх спраў, каталіцкага касьцёла і Саюза Палякаў у беларускім друку.

Галоўным рэдактарам за гэта вялікае дзякуй.

Але нельга прайсьці міма маючых яшчэ месца прыкрых і прымітыўных антыпольскіх выбрыкаў у «ЛіМе» і асабліва ў гарадзенскай «Пагоні».

Раней я даслаў у «ЛіМ» аналіз — не ўпрыгожваючы ні «ЛіМ», ні Алеся Чобата з Горадні,— артыкула «А што на «крэсах» магло зьмяніцца?» з дня 27 жніўня 1992 года.

І вось Алесь ізноў атрымаў, мякка кажучы, «па... твары» ад Пана Пазнаньскага з Беластоку за перадрукаваную ў «ЛіМе» з «Пагоні» далёкую ад паняцьцяў такту і этыкі «справаздачу» з візітаў у г. Горадню Ганны Сухоцкай.

Але ж было б не толькі няправільным, але і надзвычайна несправядлівым гэту аплявуху і ўсё, аб чым піша Пан (з вялікай літары) Пазнаньскі, адносіць выключна на рахунак спадара Чобата.

Надзвычайна вялікая ў гэтым «заслуга» «ЛіМа» і яго галоўнага рэдактара.

Ня трэба хіба паўтарацца, што артыкулы Чобата і яму падобных недадаюць пашаны ні «Пагоні», ні «ЛіМу». Прыкрыцца паняцьцямі плюралізму ў гэтых выпадках не ўдасца.

І вось 1 кастрычніка ў «ЛіМе» Алесь Чобат у артыкуле «Не паклёп, але анекдот...» дае анегдатычнае тлумачэньне сваіх, больш ніж кантравэрсійных «твораў». Чаго вартыя яго, здавалася б, мудрыя і сардэчныя разважаньні наконт таго, што «... журналісцкая этыка патрабуе паважаць і чужыя погляды на жыцьцё», відаць, літаральныя ў гэтым жа сказе, дзе ён «самастойна» і ўпэўнена акрэсьлівае, што палякі, з якімі ён размаўляў з Панам Пазнаньскім, гэта «браткі-беларусы».

Таму тлумачэньне Чобата аб яго збыт «... гранічным поглядзе на самога сябе, на людзей увогуле...» мы разглядаем і ацэньваем без іроніі, вельмі паважна, як звыклую разбэшчанасьць і брак адказнасьці за свае чыны, што дае нам падставу тлумачыць гэта станам самога Алеся.

Таму са сваёй стараны радзілі бы Алесю не «пераходзіць на такое «шляхетнае» пітво, як «Лідзкае» піва».

У нас ужо ёсьць прыклад, калі Алесь, але ўжо Хрышчановіч, пад узьдзеяньнем ударыўшых яму ў галаву прадуктаў перапрацоўкі ў арганізме «Лідзкага» піва напісаў такі антыпольскі шавіністычны шэдэўр, як «Пра палякаў і палякаў...»

Мараль:

1) не пісаць пра палякаў пасьля ўжываньня ні «Савецкага шампанскага», ні «Лідзкага» піва;

2) аўтарам памятаць аб «літаратурнай» і «журналісцкай» этыцы;

3) памятаць аб літаратурнай і журналісцкай этыцы рэдактарам «ЛіМу» і «Пагоні».

У нашым выпадку замест этыкі будзем весьці гаворку аб «паклёпах» , «анекдотах» і г. д.

Ці ж гэта ўзровень «ЛіМу» і «Пагоні»?

**З пашанай**
**намесьнік старшыні Саюза**
**Тадэвуш МАЛЕВІЧ.**





# ГІСТОРЫЯ

## Другі падзел Рэчы Паспалітай адбыўся ў Новым замку

1793 год. Дзьвесьце гадоў прайшло з таго часу, калі Расея і Прусія ажыцьцявілі другі падзел Рэчы Паспалітай абодвух народаў — фэдэратыўнай дзяржавы, якая складалася з дзьвюх самастойных краін: Вялікага Княства Літоўскага (Беларускай Рэчы Паспалітай) і Польскага каралеўства (Польскай Рэчы Паспалітай).

75 год тэндэнцыйная савецкая навука сцьвярджала, што пасьля падзелаў Рэчы Паспалітай (у 1772, 1793, 1795 гадах) беларускі народ і яго зямля дабраахвотна «воссоединились» з рускім народам у складзе Расейскай імпэрыі. Чамусьці забылі гісторыкі аб тым, што была беларуская дзяржава (Вялікае Княства Літоўскае) і ў выніку падзелаў расейскі агрэсар захапіў яе тэрыторыю. У 1772 годзе Расея анэксавала ўсходнія землі Беларусі, у 1793 г.— цэнтральную частку, у 1795 г.— заходнюю. Таму, на мой погляд, аніякага «узьяднаньня» Беларусі з Расеяй не было, а быў сапраўдны захоп, пасьля якога беларусы на доўгі час трапілі ў няволю.

Сёньня цікава і карысна ўспомніць старонкі гарадзенскай гісторыі той цяжкай эпохі. І пачаць хроніку падзей трэба, відаць, не з 1793 г., а раней, калі ўжо адбываліся зьявы, стаўшыя прадвесьнікамі падзелу і страты беларусамі дзяржаўнасьці.

**1791 г.** Падчас Вальнага Сойму польскія магнаты і апалячаная беларуская шляхта заявілі пра неабходнасьць увядзеньня спадчыннай манархіі і зьліквідаваньня адметных дзяржаўных структур Вялікага Княства Літоўскага. Юрыдычна беларуская гаспадарства перастала існаваць.

**1792 г.**, 14 мая. Ствараецца Таргавіцкая (каронная) канфэдэрацыя — саюз магнатаў супраць рэформ Чатырохлетняга сойма (1788—1792 гг.). Па згодзе з канфэдэратамі Расея і Прусія ўводзяць у Рэч Паспалітую свае войскі.

6 красавіка. Расейскія войскі пад камандаваньнем Ю. У. Доўгарукава займаюць Горадню. Камэндант Гарадзенскай крэпасьці М. Забела, маючы 14 тысяч войска, не праціўдзейнічае гэтаму.

Май. Расейская армія на чале з Крачэтнікавым захапіла Вільню.

18 лістапада. Выходзіць першы нумар «Wiadomosci Grodzienskie» («Гродзенскія ведамасьці») — орган канфэдэратаў. Да сьнежня 1793 г. выйшла 12 нумароў.

28 лістапада. Горадню наведвае М. Кутузаў.

**1793 г.** Горад становіцца (да 1795 г.) цэнтрам ваяводзтва ВКЛ (насельніцтва горада — каля 4 тыс. чал.). Сюды пераяжджае Літоўскі трыбунал.

17 красавіка. У Горадні праходзіць сэсія гэнэральнай канфэдэрацыі. С. Ржевускі пратэстуе супраць падзела Рэчы Паспалітай.

17 чэрвеня — 23 лістапада. У гарадзенскім Новым замку праходзіць надзвычайны апошні сойм Рэчы Паспалітай.

21 чэрвеня. На сойме пачынаецца абмеркаваньне нотаў пасланьнікаў, і 13 ліпеня быў заключаны акт дэмаркацыі межаў паміж Расейскай імпэрыяй і Прускім каралеўствам.

17 ліпеня. Прадмова караля Станіслава Аўгуста II Панятоўскага на сойме, у якой ён радзіць «покориться печальной необходимости, чтобы не ухудшить положение Речи Посполитой». Каб зразумець гэтыя словы апошняга караля, трэба ведаць, што ў Горадні ён знаходзіўся пад строгім наглядам расейскага пасла ў Польшчы Якава Сіверса. Той падпарадкаваў Станіслава Аўгуста сваёй волі (гэта значыць, волі Расеі) і меў значны ўплыў на польскую ўнутраную і зьнешнюю палітыку.

19—22 ліпеня. Заключэньне трактата паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай аб падзеле апошняй.

17 жніўня. Сойм ратыфіцыруе трактат: да Расеі адыходзіць цэнтральная Беларусь і Правабярэжная Украіна.

2 верасьня. Сіверс дае загад начальніку рускага гарнізона заблакаваць выхады з горада і галоўныя вуліцы, акружыць замак, дзе засядае сойм. На двары і ў калідорах замка ўстанаўліваецца моцная варта, а дванаццаць афіцэраў разьмяшчаюцца ўнутры соймавай залы. Паслы сойма упускаюцца ў залу, але не выпускаюцца з яе. Аднак хутка, па просьбе дэлегацыі сойма, Сіверс выводзіць салдат і афіцэраў з замка.

15 верасьня. Таргавіцкая канфэдэрацыя распушчана і заменена Гарадзенскай.

23 верасьня. Арыштаваны чатыры найбольш актыўныя сябры апазіцыі: Краснадэмбскі, Шыдлоўскі, Мікорскі і Скаржынскі, але хутка адпушчаны па просьбе дэпутацыі. На выхадах з горада пастаўлены пікеты, каб не выпускаць паслоў без пашпарта, падпісанага Сіверсам. Замак акружаны дзьвума батальёнамі, а ля брамы ўстаноўлены чатыры гарматы, каля якіх стаяць артылерысты з запаленымі кнотамі. На двары замка пастаўлены пікет з 50 чалавек. У соймавую залу праходзіць начальнік рускага гарнізона. Па прыбыцьці караля пачынаюцца дэбаты па праэкту дагавора з Прусіяй. Чытаньне праэкта перарываецца шумам апазіцыі, значная частка паслоў сьпіць.

24 верасьня, палова чацьвёртай ночы. Пры агульным «мёртвом» маўчаньні маршалак сойма заяўляе аб аднагалосным прыняцьці праэкта дагавора з Прусіяй (выгук аднаго з дэпутатаў: «Молчание есть знак согласия!»). Па гэтаму дагавору да Прусіі адыходзіла амаль уся Вялікая Польшча, частка Мазовіі і Кракаўскага ваяводзтва. Такім чынам, у 1793 г. адбыўся не «нямы сойм», а «нямое паседжаньне».

5—16 кастрычніка. Заключэньне трактата аб ʼяднаньня, сяброўства і саюза паміж Расейскай імпэрыяй і каралём Польшчы. Аднаўляецца дзяржаўны лад Рэчы Паспалітай, які існаваў пасьля першага падзелу, адмяняецца канстытуцыя 3 мая 1791 г. Сойм зацьвярджае другі падзел Рэчы Паспалітай і прымае новую («Гарадзенскую») канстытуцыю. У асноўным яна паўтарала канстытуцыю 1775 г. з уключэньнем шэрага палажэньняў з канстытуцыі 1791 г. Галоўныя артыкулы наступныя: аднаўленьне Пастаяннай рады — выбарчага воргана пры каралі і выбарнасьці польскіх каралёў; вышэйшым заканадаўчым органам прызнаваўся сойм, рашэньні ў якім павінны прымацца большасьцю галасоў; беззямельная шляхта пазбаўлялася палітычных правоў; пацьвярджаліся ўсе дваранскія прывялеі; захоўвалася гарадзкое самакіраваньне. Фактычна Гарадзенская канстытуцыя засталася на паперы, таму што пасьля пагрома паўстаньня пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі Польшча згубіла самастойнасьць.

Вось так адбыўся другі падзел Рэчы Паспалітай. І ні дзе-небудзь далёка, а тут, у нашым горадзе. І, спадзяюся я, што Новы замак для некаторых будзе ўспрымацца цяпер ня толькі як будынак, дзе разьмяшчаўся абкам КПБ.

**В. ШВЕД,**
**дацэнт кафедры гісторыі славянскіх дзяржаў ГрДУ.**

## Спадар Ян разьвітваецца з Горадняй



Зачынілася выстава шведзкага мастака Яна Кузьміцкага ў Горадні. У Новым замку вісяць ужо іншыя карціны, іншых мастакоў. Звычайна, калі мастак адʼяжджае, газэты маўчаць. Мастацтва Яна, яго лёс, асоба настолькі не падобная на ўсіх, з кім даводзілася калі-небудзь сустракацца раней, вельмі ўразілі.

У адным з мінулых нумароў «Пагоня» паведамляла аб яго выставе, аб яго жыцьцёвым лёсе, праўда, ня ўсё. Ян зацікавіўся нашым жыцьцём, людзьмі, мастацтвам, беларускім адраджэньнем. Яго цікавіла амаль усё, што ён тут убачыў. Больш таго, ён абавязкова хацеў як мага глыбей пазнаць розныя зьявы, рэчы, людзей, а ня толькі па вяршках. Здаецца, яго сэрца, такое жывое, нешта тут, на Радзіме, яшчэ болей абудзіла. Ен казаў мне, што ў Швэцыі яму ніколі ня ўдасца стаць лепшым ад швэцкага мастака, а ў Фінляндыі ад фінскага. Бо такое жыцьцё.

А тут ён адчуў новыя сілы і пэрспэктывы, ён зразумеў, што можа і павінен стварыць яшчэ нешта новае, чаго раней у яго не было.

На выставе Яна я спаткаў знаёмых гарадзенскіх мастакоў. Яны дзяліліся сваімі ўражаньнямі і адзначалі глыбіню яго карцін, вельмі тонкую і балючую душу, высокае, ненадуманае майстэрства. Я адчуваў гэта сам без іх слоў.

Мы гулялі з Янам па восеньскіх вуліцах Горадні, з замілаваньнем аглядалі наш прыгожы горад. Я запытаў у Яна, ці можна з чым параўнаць наш горад, ён адразу адказаў, што Горадня нагадвае яму Ізраіль, а чаму менавіта гэтую краіну, ня ведаў. Толькі казаў, што ў нашым горадзе ёсьць нейкі такі дух, як і ў той краіне.

Мне вельмі спадабаліся ў Яна манатыпіі, падчас такія цёмныя і зусім не зразумелыя. Ян адказаў, што менавіта ў іх ён хацеў выказаць усяго сябе, свой унутраны сьвет, глыбіню пачуцьцяў і хваляваньняў, якія часам бяз межаў паглынаюць яго душу.

Адна з карцін Яна (дарэчы, яна на здымку) атрымала назву тут у Горадні — «Вера, Надзея, Любоў», як падказала мастаку яго пляменьніца, якая жыве ў нашым горадзе.

Было сумна з ім разьвітацца, хоць ён казаў, што будзе часта цяпер наведваць наш горад і працаваць. А яшчэ ён запрашаў усіх на свае выставы ў Лідзе і Менску, якія ўжо там адчыніліся.

**М. К.**

## Лёс капэлы пакуль ня вырашаны

Адбылася сустрэча намесьніка старшыні камісіі Вярхоўнага Савету Беларусі па адукацыі і захаваньню культурнай спадчыны А. Трусава з асобамі, адказнымі за культуру у вобласьці і горадзе, прадстаўнікамі філармоніі і капэлы імя Тызэнгаўза. На ёй абмяркоўваліся пытаньні, зьвязаныя з будучыняй капэлы: застаецца яна самастойнай ці ўвойдзе ў склад філармоніі, бо гарвыканкам ня ў стане фінансаваць яе дзейнасьць.

Мастацкі кіраўнік капэлы А. Бандарэнка расказаў прысутным аб планах калектыва на будучыню, сказаў, што толькі з прычыны нерэгулярнай аплаты шмат яго членаў вымушаны працаваць па сумяшчальніцтву ў іншых месцах. Ён таксама паведаміў, што капэла жадае мець уласную пячатку і рахунак, каб самастойна распараджацца сваімі грашыма, і выказаў думку, што пасьля ўваходу ў склад філармоніі яна будзе абмежавана ў планаваньні гастроляў і рэпэртуару.

Дырэктар філармоніі Р. Іванова запэўніла яго: «Мы ні ў чым вас стрымліваць не зьбіраемся». А. Я. Найдзён, галоўны бухгалтар філармоніі, дадала, што па просьбе капэлы яе калектыў загадам можна будзе пакінуць на пэрыяд рэпэтыцый замест таго, каб накіроўваць на гастролі, і заўважыла, што члены калектыву змогуць працаваць і па сумяшчальніцтву, але ж час работы не павінен супадаць з раскладам асноўнага месца працы.

Намесьнік начальніка ўпраўленьня культуры аблвыканкаму В. Губіч, зьвярнуўшыся да прадстаўнікоў капэлы, сказаў: «Мы знаходзім для вашай творчасьці найлепшую матэрыяльную базу». На імкненьне іх застацца самастойнымі А. Трусаў адказаў: «Ёсьць два варыянты: застацца і надалей малым прадпрыемствам і самім шукаць спонсараў, займацца гандлем ці ўвайсьці ў склад філармоніі з захаваньнем вашага ўставу. Калі вы просіце дзяржаўную датацыю, трэба выконваць пэўныя правілы. Зразумейце, што немэтазгодна аплочваць работу і вашага бухгалтара, і філарманічнага».

У канцы сустрэчы ён прапанаваў, каб на сходзе працоўны калектыў вырашыў, ці будзе ён уваходзіць у склад філармоніі, папрасіў гарадзкія ўлады адшукаць грошы на выплату работнікам капэлы зарплаты за кастрычнік, а кіраўнікоў філармоніі пакінуць капэле, калі яны абʼяднаюцца, бягучы спонсарскі рахунак. Прысутныя пагадзіліся з гэтым.

**А. Д.**





# ВАЙНА І ЛЮДЗІ

## Армія Краёва

1 верасьня 1939 году Германія напала на Польшчу. Ноччу 17 верасьня ў Маскве наркам В. Молатаў перадаў польскаму паслу, што СССР знаходзіцца ў стане вайны з Польшчай, ранкам Чырвоная Армія перайшла граніцу... 30 кастрычніка 1939 году Заходняя Беларусь была ўключана ў склад СССР. Праз няпоўныя два гады, 22 чэрвеня 1941 году, немцы парушылі савецка-германскі пакт аб ненападзе і перайшлі граніцу СССР, да канца ліпеня 1941 году сілы вэрмахта акупіравалі амаль усю Беларусь.

Пад нямецкай акупацыяй тэрыторыя БССР была падзеленая наступным чынам: 1. Беласток, Горадня і Ваўкавыск — да «бецырк Беласток» у складзе Прусіі. 2. Берасьце, Кобрын, Пінск, Мазыр, Рэчыца — да Гэбітскамісарыяту «Украіна». 3. Астравец — да Гэбітскамісарыяту «Летува». 4. Полацак, Віцебск, Ворша, Магілёў, Бабруйск, Гомель — да зоны армейскай акупацыі (тыл арміі «Цэнтр»). 5. Ліда, Слонім, Ганцавічы, Баранавічы, Слуцк, Глыбокае, Наваградак, Вілейка, Менск, Барысаў — да Гэбітскамісарыяту «Беларусь».

Польскае падполле,— нагадаем, Польшча знаходзілася ў стане вайны як з Германіяй, так і з СССР,— пад нямецкай акупацыяй дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў форме чатырох акругаў Арміі Краёвай — Віленскай, Беластоцкай, Палескай і Наваградзкай — якія адпавядалі чатыром даваенным ваяводзтвам. Армія Краёва была створаная загадам прэм 'ера лонданскага эміграцыйнага ўраду генэрала Ул. Сікорскага 14 лютага 1942 году і афіцыйна існавала да 9 студзеня 1945 году...

**І. Восень 1939 — вясна 1942.**

Занятая Чырвонай Арміяй тэрыторыя Заходняй Беларусі аж но да 22 чэрвеня 1941 года разглядалася савецкімі ўладамі як асобая зона. Напрыклад, старая савецка-польская мяжа фактычна праіснавала да пачатку вайны з немцамі, на праезд патрабаваўся пропуск і г. д. Арганізаваныя ў верасьні-кастрычніку 1939 году «часовыя ўпраўленьні» пасьля выбараў у Народны Сход былі зьліквідаваныя, а іх месца занялі Саветы (5 вобласьцяў, 101 раён), пры гэтым падаўляючую большасьць у сістэме партыйна-дзяржаўнай улады мелі спэцыяльна падабраныя ЦК КП (б) Б выхадцы з Усходняе Беларусі.

Ліквідацыя старога польскага апарата ўскладалася на НКВД, апроч таго, рэпрэсіям падлягалі польская інтэлігэнцыя, «буржуазна-кулацкія» элемэнты. Агулам на ўсход пасьля 17 верасьня 1939 году было вывезена з новадалучаных да СССР абшараў больш 1 млн. чалавек. З іх з Заходняй Беларусі — каля 300 тысяч чалавек; таксама трэба ўлічваць забітых у першыя дні, арыштаваных і расстраляных у турмах — разам 35—40 тысяч чалавек.

Аднак арганізаванага адпору з боку палякаў гэты тэрор не сустрэў, асобныя акцыі разрозьненых атрадаў з афіцэраў і жаўнераў польскай арміі, КОП-аўцаў («корпус охроны пограніча» — **аўт.**), уцекачоў ад раскулачваньня і вывазу былі рэдкімі і хаатычнымі (напад на Скідаль летам 1940 году).

Пасьля нападу немцаў на СССР першыя месяцы ўся ўлада належала выключна вэрмахту. Толькі 17 ліпеня 1941 году А. Гітлер выдаў загад пра адміністрацыйны падзел занятых абшараў і арганізацыю цывільнай улады. Тылавыя афіцэры вэрмахта, арганізуючы дапаможную паліцыю і апарат, зыходзілі выключна з прагматычных меркаваньняў, бягучых патрэбаў — зразумела, перавага аддавалася «пацярпелым ад бальшавізма», ведаючым нямецкую мову, лепш адукаваным і маючым патрэбныя навыкі.

З другога боку, сярод польскага насельніцтва былых «падсавецкіх» абшараў выказваліся нават сімпатыі да немцаў. Так, у ліпені 1941 году кіраўніцтва ЗВЗ («зьвёнзэк валькі збройнэй», папярэднік і асноўнае ядро АК — **аўт.**) атрымала ад высланых да Беластока агентаў зьвесткі, што палякі вітаюць немцаў як вызваліцеляў, ахвотна ідуць у адміністрацыю, у паліцыю, на працу да фабрыкаў і на чыгунку. ЗВЗ патрабавала ад свае агэнтуры ўзмоцніць антынямецкую прапаганду, але сама менш да зімы 1942 году сітуацыя мянялася мала.

Да таго ж, працягваўся антыпольскі тэрор з боку СД і СС у цэнтральнай Польшчы, ды з боку нямецкіх і летувіскіх уладаў на Віленшчыне — палякі масава беглі ў «гэбітскамісарыят Беларусь», дзе знаходзіліся ў адноснай бясьпецы.

«На Беласточчыне амаль усе адміністрацыйныя пляцоўкі ў руках палякаў,— гаварылася ў рапарце Краёвай Дэлегатуры лонданскага ўрада.— Акупант вяртае на працу тых, хто займалі гэтыя ж месцы да 1939 году. Да таго ж, адсутнасьць беларускіх спэцыялістаў проста вымушае немцаў прыймаць палякаў...».

«Апарат у Горадні,— сьведчыць данясеньне СД,— цалкам у руках палякаў. 72-асабовая служба парадку выключна польская...».

«У Вілейскім павеце,— пісаў пазьней А. Калодка ў газэце «Зважай»,— пры немцах можна было ўбачыць дзіўныя шыльды накшталт «Постэрунэк Польскей Поліцыі **Паньствовэй**». У павятовых канторах, вясковых школах, паліцыі — кругом па-польску...».

«На беларускія абшары,— дакладвала разьведка ЗВЗ восеньню 1941 года,— вяртаюцца польскія землеўладальнікі пад аховай нямецкай жандармэрыі. Гэта прыводзіць да канфліктаў з «хлопамі», ад якіх адбіраюць забраную ў калгас і зноў падзеленую пры немцах фальварачную зямлю, інвэнтар, коней і г. д. У навакольлі Ліды дайшло да пратэстаў і сутычак, тады жандары застрэлілі некалькі дзесяткаў чалавек. Немцы робяць выгляд, быццам «вяртаюць Польшчу», такім спосабам ствараюць антаганізм паміж беларусамі і палякамі...».

Да канца 1941 году ЗВЗ і іншыя падпольныя польскія арганізацыі ў Заходняй Беларусі былі невялікія, буйных антынямецкіх акцый практычна не ажыцьцяўлялі,— зрэшты, слаба выглядала і савецкая партызанка,— але шырокі ўдзел палякаў у нямецкіх структурах ствараў спрыяльныя магчымасьці ў будучым. Гэта разумелі ў СД гэнэрала К. Зэннэра і апараце прызначанага гауляйтэрам ГК «Беларусь» В. Кубэ: калі першыя два месяцы чалавека расстрэльвалі па даносу «гэрр афіцэр, тэн чловек то большэвік!» — так загінула шмат настаўнікаў, гаспадароў і г. д.— то ад верасьня цывільная адміністрацыя і СД пачалі кантраляваць даносы і нават былі асобныя выпадкі, калі расстрэльвалі ўжо даносчыкаў; дзеля справядлівасьці трэба сказаць, спасылаючыся на тагачаснага беларускага дзеяча І. Касяка, што «беларусы плацілі палякам той самай манетай»... Пазіцыі беларусаў сталі ўзмацняцца пасьля 22 кастрычніка 1941 году, калі загадам В. Кубэ была створаная «Беларуская Народная Самапомач» на чале з д-рам І. Ермачэнкам. Афіцыйна гэта была толькі культурна-асьветніцкая і гаспадарчая арганізацыя, але немцы абапіраліся на БНС таксама ў кадравай палітыцы, а з пачаткам 1942 году ўпаўнаважаныя БНС па васьмі акругах ГК «Беларусь» атрымалі права фарміраваць «беларускую самаахову» альбо дапаможную паліцыю, якая праз кароткі час налічвала 25 тысяч чалавек.

Першыя мэтанакіраваныя антыпольскія акцыі немцаў прыпадаюць на восень 1941 году, аднак г. зв. «ПоленАкціон» пачалася летам 1942 году — мэтай яе было поўнае ачышчэньне апарату і паліцыі ад палякаў. Менавіта пад час гэтай акцыі былі праведзеныя масавыя арышты і расстрэлы палякаў у Лідзе, Слоніме, Наваградку, Баранавічах. Аднак пажаданых вынікаў «ПоленАкціон» не прынесла: па-першае, калі немцы на працягу 1942 году, напрыклад, у Слонімскай акрузе звольнілі са службы больш 1 тысячы палякаў, то адначасова больш 500 чалавек склалі заявы, што яны толькі «запісаныя палякамі» беларусы. Па-другое, антыпольскі тэрор прывёў да масавых уцёкаў палякаў у лес і паўстаньня першых рэгулярных атрадаў АК, распачаўшых узброеныя напады на нямецкія і паліцэйскія (галоўным чынам, летувіскія ды ўкраінскія — **аўт.**) пастарункі, так званая «акцыя на зброю».

Да лета 1942 году АК утварыла на абшарах Заходняе Беларусі чатыры Акруговыя камэндатуры. Найбольш моцныя і найлепш узброеныя структуры АК былі створаныя ў Віленскай і асабліва Наваградзкай акругах.

**ІІ. АК, савецкая партызанка і акупанты.**

Савецкі партызанскі рух на Беларусі арганізоўваўся паводле дырэктывы ЦК КП(б)Б ад 29 чэрвеня 1941 году. Нагадаем, што немцы ўжо былі тады ў Менску. На Ўсходняй Беларусі было пакінута каля 1,3 тысячы камуністаў і 5 тысяч камсамольцаў для падпольнай работы. Разам з «окруженцами» Чырвонай Арміі партызанскія атрады восеньню 1941 году лічылі больш 12 тысяч чалавек. Аднак да зімы 1941/42 гг. гэтая «аматарская» партызанка была ў асноўным падаўленая немцамі.

Новы этап пачаўся вясной 1942 году. 20 сакавіка была створаная «северо-западная оперативная группа ЦК КП(б)Б», якая супрацоўнічала са штабамі 3-й і 4-й Ударных Армій Калінінскага Фронту. 30 мая 1942 году пры Галоўным Камандаваньні Чырвонай Арміі ўзьнік Цэнтральны штаб партызанскага руху на чале з першым сакратаром ЦК КП(б)Б П. Панамарэнкам, а з верасьня дзейнічаў яго пададдзел — Беларускі штаб партызанскага руху на чале з другім сакратаром ЦК КП(б)Б П. Калініным. Савецкае камандаваньне бралася за партызанцкую вайну паважна: за два наступныя гады ў нямецкі тыл перакінулі больш **13 тысяч афіцэраў і інструктараў,** 150 радыёстанцый, 60 тысяч вінтовак, 20 тысяч кулямётаў і аўтаматаў, 100 млн. набояў, 400 т выбуховых рэчываў, сотні мінамётаў і гарматаў — узбраеньне на дзесяць (!) пяхотных дывізій...

А немцы вясной 1942 году дапусьцілі два рашаючыя пралікі. Па-першае, выдалі загад адпушчаным на гаспадарку савецкім ваеннапалонным вярнуцца назад у лягеры, па-другое, пачалі прымусовы вываз моладзі на работы ў Германію. Па словах саміх жа афіцэраў СС, «вярбоўка» нагадвала «паляваньне на неграў часоў гандлю рабамі»...

Нічога дзіўнага, што шэрагі савецкай партызанкі імкліва расьлі і на канец 1942 году яна налічвала 56,6 тысячы чалавек, з іх большасьць у «армейскай зоне» ды 11 тыс. у ГК «Беларусь». Тут трэба ўдакладніць, што партызанцкі рух разгортваўся ў напрамку «усход — захад», а на тэрыторыі ГК «Беларусь» савецкія партызаны групаваліся ў асноўным у лясах пад Слуцкам і Барысавам, гэта значыць, на абшарах БССР да 1939 году; тэрыторыя ж «былой Польшчы» была «запартызаненая» па-ранейшаму слаба. **Калі ва Ўсходняй Беларусі на 10 тыс. жыхароў прыпадала 140—150 партызанаў, то ў Заходняй — толькі 20—22...** Таму з вясны 1942 году нямецкая разьведка ўсё часьцей стала адзначаць факты ня толькі кантактаў, але й супрацоўніцтва «саветаў» і АК на захадзе ГК «Беларусь».

**(Працяг будзе).**

## Мэмарыяльная шыльда

Ёсьць страты, якія нельга папоўніць. Такім чалавекам для Горадні і для ўсяго адраджэнцкага руху на Беларусі быў Міхась Аляксандравіч Ткачоў. Не знайшлося адпаведнай замены Міхасю Ткачову ў гісторыка-культурным клюбе «Паходня», які ён стварыў, меўшы пры гэтым процьму непрыемнасьцяў ад гарадзкіх уладаў, і асабліва ад унівэрсітэцкіх, дзе працаваў, меўшы вучоную ступень доктара гістарычных навук. Няма яму раўнацэннай замены і ў Беларускай Сацыял-дэмакратычнай Грамадзе, якую таксама адрадзіў М. Ткачоў і быў яе першым старшынёй, хоць Грамада і аб 'яднала лепшых прадстаўнікоў нацыянальнай інтэлігэнцыі Беларусі.

Ня хочацца гаварыць аб гэтым чалавеку ў мінулым часе, але 1992 год быў вельмі цяжкім, і страцілі мы ня толькі Ткачова, а і Аляксея Нічыпаравіча Карпюка, а крыху раней — акадэміка Ю. М. Астроўскага. І сёньня, калі над нашай незалежнасьцю зноў навісьлі хмары, яшчэ больш хочацца бачыць гэтыя постаці сярод жывых.

Да Міхася Ткачова, як да бацькі, ішла па параду моладзь, людзі сталага ўзросту, хоць за многіх з іх ён быў малодшы, бо было яму ўсяго 50 год. Узрост — для дзеяньняў, для зьдзяйсьненьня задумак, тым больш, што ўжо крыху разьвязаліся рукі, зьявіліся магчымасьці зрабіць як мага болей для Беларусі, для яе дзяржаўнасьці.

Шлях да незалежнасьці, да вольнага і заможнага жыцьця яшчэ такі доўгі і нялёгкі, таму нам, яго нашчадкам, аднадумцам, трэба аддаць належнае памяці гэтага чалавека. Бо людзі, якія прыйдуць пасьля нас і будуць жыць у незалежнай і вольнай дзяржаве, павінны ведаць духоўных лідэраў нацыі, якія свой талент, частку свайго жыцьця паклалі за адраджэньне Бацькаўшчыны.

У Мсьціслаўлі, на радзіме Ткачова, адкрыта мэмарыяльная дошка, у гонар славутага земляка названа адна з вуліц. Мясцовыя ўлады паклапаціліся і ўшанавалі памяць да дня Незалежнасьці 27 ліпеня.

**Гарадзенская філія БСДГ паведамляе грамадзкасьці, што адкрыцьцё памятнай дошкі М. Ткачову адбудзецца 31 кастрычніка а 13 гадзіне па праспэкту Будаўнікоў, 27, дзе жыў М. А. Ткачоў.** Ушанаваньне памяці ў Горадні будзе зроблена на сродкі грамадзкасьці. Намаганьні Гарадзенскай філіі БСДГ па ўшанаваньню памяці былі падтрыманы намесьнікам старшыні гарвыканкама Мілінкевічам А. У., начальнікам камунальнай гаспадаркі горада Шпакам В. Л., выкладчыкамі унівэрсітэта.

Першымі на зварот БСДГ адгукнуліся і пералічылі пасільную суму грошай: НВП «Вэктар», МП «Дзежыц», МП «Васілёк», абласное аддзяленьне Беларускага фонду культуры, прафсаюз прадпрыймальнікаў «Ліга», удзельнікі міжнароднай канфэрэнцыі Рым-IV Янка Запруднік і Вітаўт Кіпель, прадпрыймальнік Ігар Сьмірноў, адвакат М. І. Хвесеня і многія іншыя. Шчыра ўдзячна ўсім людзям, якія непасрэдна прычыніліся да гэтай высакароднай справы.

Хацелася б, каб гэткая дошка была ўстаноўлена і ва ўнівэрсітэце, дзе доўгі час працаваў М. Ткачоў, дзе прайшлі найбольш плённыя для навукі гады. Можа, ўсё ж улады унівэрсітэта «поступятся принципами»?

**Л. МАЦЮК.**

# ЛІТАРАТУРА. ПАДАРОЖЖЫ

## Данута БІЧЭЛЬ

**Конік гняды ў яблыкі**
**наворвае бульбу.**
**Якую капаю.**
**Якую не садзіла.**

Думаю: — Божа мой, Божа...
Дні прападаюць у сьне.
Як бы жыла я прыгожа!
Конік вазіў бы мяне!

Як жа ты там да відзэнька
зоркі згрызаеш з расы?
Косю мой, косю гнядзенькі,
зглумзаў мае дзьве сьлязы.

На здратаваным гасьцінцы
каля халодных магіл
яблыкі ў косі на сьпінцы
хай не закоцяцца ў пыл.

Лепшую долю з-пад пылу
выцягнуць можна было б...
Косю ты, косю мой мілы,
цёплыя губы і лоб.

**13.09, 9.10.1993**

### Бонік

Рай наш бэтонны, чыгунны.
У тэлефоне — свой цэнзар.
Дзяцел тут стукае чуйны,
столь прадзяўбе, як цэбар.

Тхне ад савецкай Гародні,
лезе смурод ва ўсе дзіркі,
Бонік, худы і галодны,
зглумзаў з Друскенікаў ныркі.

Долю ж, як хлеба акраец,
не прывязеш з-за граніцы...
Ты мне паказваеш палец.
Я табе — хвігу ў спадніцы.

Што мы ад гадаў схавалі,
бач ты, аддай ім назад!...
Самі вы збанкрутавалі—
як беларускі ўрад!

Бульбу шарую на дранік.
Лепш ужо пальцы калечыць.
Зьявіцца лёсу выгнаньнік
з грошай, чым тут, халадэчы...

Выгляд ва ўсіх дурнаваты,
як у пабітым люстэрку...
Ды прыйдзе доктар стракаты—
і прынясе паўлітэрку!

Крытык ня кіне карыта,
дзікіх катоў сувязны...
Бонік — наш крытык!
Сутак хапае на сны.

Боніка мясам ня купіш—
перажыла ж усе ўлады,
бачыла лівер і кукіш,
пасткі, драты і прылады...

Лепшы той знак Задыяка,
хто табе ткнецца ў калені...
Бонік — найлепшы сабака.
Розум, душа і сумленьне.

**1991**

### Марыя

Марыя!
Над галавою самотнай маці
сьвятых анёлаў бялюткіх крыльле.
Усё яе будзённае шчасьце
Тваё імя асьвятляе — Марыя!

Марыя!
Тут, у зласьлівых навідавоку,
у іх няшчырасьці эйфарыі,
малітва нас выводзіць са змроку,
малітва да апякункі Марыі.

Марыя!
Страсае вецер зь ялін іголкі.
Бор аддаецца Тваёй абароне.
Твае бялюткія два анёлкі
цалуюць маці самотнай скроні...

**19.09.1993**

### Восень

Вяжу суkенку на жыцьцё альбо на сьмерць.
Пакуль жывая — цепліцца надзея,
што нехта на мяне яе надзене...
Шчэ сілы ёсьць самой сябе разьдзець.

Пайшлі адсюль ніякія сябры.
Сьмерць не прыходзіць — ёй кутка ня маю.
У тым гаі галінак наламаю,
хай у камінку шэпчуцца вятры.

Было і ўлетку горкай смакаты,
дзён-пустацьветаў, выдуманай цноты,
бяссоннай беспатольнай адзіноты...
Тут пастаю — пад абразом сьвятым.

**26.09.1993**

### Так надакучыла...

Так надакучыла прыкідвацца дурніцаю.
Нару пакінула, дзе па закутках страх.
Умею задавольвацца драбніцаю.
Каб толькі рукі не трымаць па швах.

Прывыклі гнуць мяне галінкай ніцаю,
бяздумнай школьніцай у кут стаўляць,
глядзець, нібы сталіца на правінцыю,
абы пра што, але паразмаўляць...

**26.09.1993**

# На карнавал у каралеўскую краіну, дзе на палях расьце ячмень

### ЧАСТКА ЧАЦЬВЁРТАЯ: «СЬВІНАЎЙСЬЦЕ»

#### 1. Мост у горад.

Каб трапіць з порту й чыгуначнага вакзалу ў места, трэба перасекчы вузкае горла заліву. Моста ў горадзе няма, а таму з аднаго берага на другі курсуюць два невялічкіх квадратных карабліка з кавалкам асфальтаванае вуліцы на палубе. На зьдзіўленьне, яны аказаліся бязплатнымі.

Да адплыцьця парома ўвечары ў нас быў вольным цэлы дзень. Пакінуўшы свае заплечнікі й інструменты ў камэры захоўваньня, мы паплылі на шпацыр па вузкіх вулках мястэчка.

Ля касы пасярод заліва стаялі сумнашэрыя вайскова-дэсантныя караблі. Пасьля развалу Варшаўскае дамовы іх змрочныя паставы выглядалі досыць недарэчна.

Вакол напружнага карабліка кружляла процьма вялізных чаяк, як быццам з мэтай пацэліць белай вільгацьцю ў згурбіўшыхся на палубе безабаронных пасажыраў. Часам яны былі досыць трапныя.

#### 2. Дойчланд.

Сьвінаўйсьце месьціцца літаральна на самае нямецкае мяжы. Але ў параўнаньні з аблезлым асадніцкім Шчэцынам горад дагледжаны. Пра недалёкае мінулае сьведчаць адно дрэнна абдзёртыя нямецкія надпісы на франтонах дамоў і гатычныя паставы кірхаў, ператвораных у касьцёлы.

Уздоўж прычалу пастаянна праплываюць шыкоўныя яхты пад нямецкімі й швэцкімі сьцягамі.

Каб ня блізкасьць мора, горад нельга было б адрозьніць ад добра памятаемых мною з далёкага дзяцінства Цосэна й Вэрнойхэна: пляц, ратуша, кірха, вузкія крывыя вулкі, якія промнямі разыходзяцца ў розныя бакі.

Адразу кідаюцца ў вочы рокеры на дарагушчых BMW і «Кавасаках», а таксама вялікая колькасьць мужчынаў у шортах. Гэткае вясёлае жыцьцё горада-курорта.

#### 3. Індзейцы.

На цэнтральным пляцы расстаўлялі гукаўзмацняльную апаратуру й даставалі з футаралаў гітары лацінаамэрыканскія індзейцы ў каляровых панонах і чорных круглых капелюшах. З адчыненых вокнаў мансарды дома насупраць бухаў мясцовы рок-гурт. Усё нагадвала пра канчатковую мэту нашага падарожжа.

Але паслухаць імправізаваны канцэрт у нас так і не атрымалася.

#### 4. Іштад.

Мы завіталі на пошту, каб даслаць факс нашаму сябру ў Данію — маўляў, сустракай нас заўтра зранку. Пакуль усе складалі тэкст, я выравшыў канчаткова разабрацца ў квітках на паром. «Памэранія», якая значылася ў іх, ужо стаяла на прыстані.

Крамзоля, якая пазначала пункт нашага прыбыцьця, ніяк не была падобная на слова «Капэнгаген».

— Кася, можа, ты разьбярэшся, што тут напісана,— я працягнуў ёй блянк.

Калі я купляў квіткі ў Варшаве, астатнія чакалі мяне, пасеўшы ў скураныя фатэлі й гарталі рэклямныя праспэкты кампаніі «Полфэрiз».

— Гэта ж Іштад... У нас квіткі ў Швэцыю!

#### 5. Віза.

Быў якраз той выпадак, калі мы павінны дзякаваць, што для нас як жыхароў «дзікае» краіны пры ўезьдзе ў цывілізаваны сьвет існуе візавы рэжым. Гэта прымушае цябе не «расслабляцца», быць «на чаку», праверыць і перапраўверыць усе паперы.

Паром на Капэнгаген адплывае на паўгадзіны раней за «Памэранію». Гэта быў апошні паром, якім мы пасьпявалі б на свой канцэрт.

На марскім вакзале нас супакоілі. Патрабавалася ўсяго толькі ў сем гадзінаў, калі адчыніцца каса, дадаць грошы й атрымаць даплату на паром «Вілянуў».

Але разьняволены шпацыр быў сапсаваны. Мы хваляваліся, што нам можа не хапіць квіткоў, бо...

#### 6. Бежанцы.

У невялічкай чакальнай залі мы ўбачылі жудасны натоўп. Гэта быў апошні вечар, калі Данія бяз візаў прымала бежанцаў з былой Югаславіі. Іх было вельмі шмат, у асноўным кабеты з маленькімі дзецьмі й стосамі валізаў. Увесь гэты вэрхал здымалі хлопцы з дацкай тэлевізіі.

#### 7. «Я дастаю із шырокіх штанін...»

Малады памежнік доўга са зьдзіўленьнем разглядаў нашыя «чырвоныя кніжыцы», пасьля чаго пачаў некуды тэлефанаваць. Да адплыцьця парома заставаліся лічаныя хвіліны, і ззаду нас пачалі абурацца польскія маладзёны-скаўты. Я штохвілінна пазіраў на гадзіньнік.

Жаўнер добразычліва супакоіў:

— Не хвалюйцеся, калі трэба будзе, паром затрымаецца. Я проста ніяк не магу зразумець, вы што — расейцы альбо беларусы?

— Беларусы. Мы з Менска.

— Дык няўжо ў вас яшчэ дзейсныя такія пашпарты?! — ён паказаў на сярпаста-малатчастую вокладку.

— Самім сорамна, але што зробіш...

### ЧАСТКА ПЯТАЯ: «ПАРОМ»

#### 1. Традыцыя.

Кожны з нас ведаў, што на моры існуе традыцыя — пад час адплыцьця трэба разьвітацца з берагам. Мы ўсе падняліся на верхнюю палубу.

Завурчэлі магутныя рухавікі, і, усьпеніўшы ваду каля прыстані, цяжкі карабель пачаў павольна рухацца ў бок мора. Ён мінуў порт, даўгую штучную касу з маяком на самым краю й выйшаў на адкрытую марскую дарогу, да самага далягляду пазначаную сьветлавымі маячкамі. Зьлева мігцелі вагні нямецкага берагу.

#### 2. Каюты.

Каюты, альбо кабіны, як кажуць палякі, мы аплацілі ўжо на пароме. Яны месьціліся на другой палубе, а таму былі другой (звычайнае) клясы. Існуе яшчэ «люкс» — першая палуба, і турыстычная кляса — дзесьці каля ватэрлініі.

Пасьля цягніку яны нам падаліся сапраўдным шыкам: сучасны душ, ложкі, стол, даволі прасторна. Кожны з асалодай па чарзе пастаяў пад струменем вады.

Паром аказаўся сапраўды шыкоўным. Губляючыся на шматлікіх заблытаных сходах, мы траплялі ў начныя клюбы й бары, фры шоп і рэстарацыю. Паўсюль у калідорах быў пасьцелены таўсьценны кілім.

#### 3. Людзі.

Бежанцы разьмеркаваліся па ўсім караблі. Маленькія дзеці спалі на стойках бараў, сталах, фатэлях. Побач дымілі цыгаркамі звычайныя пасажыры, пасмоктваючы піва й кактэйлі. Людзі ўладкоўваліся спаць на канапах у холе, на падлозе ў калідорах. Мы, з-за нашых мокрых валасоў і бляшанкаў піва ў руках, выглядалі на багацеяў. Гэта было досыць непрыемнае становішча.

Пачаліся першыя знаёмствы. Лёня Шырын прыцягнуў з сабой ужо знаёмых нам індзейцаў і пачаў сьпяваць пад гітару песьні «Песьняроў». Мы ўладкаваліся на падлозе побач з рэстарацыяй. Нас абселі сербы й два хлопцы-данійца. Ня маючы магчымасьці добра паразмаўляць (моўны бар 'ер!), усе толькі добразычліва паглядалі адзін аднаму ў вочы.

Але, хаця ніхто не абураўся, мы ўсё ж бачылі, што перашкаджалі спаць стомленым людзям, якія ўцяклі ад вайны.

#### 4. Адкрытае мора.

Перад сном цягнула на палубу. Пераступаючы праз захінутыя ў пледы целы, мы выйшлі наверх. Дзьмуў халодны вецер.

Я заўсёды ўяўляў Балтыю, як нешта падобнае на шашу Менск — Вільня. На маё зьдзіўленьне нас абкружалі толькі чорныя хвалі. Сьвяціўся адно наш водны шлях. З жахам уявіўся адкрыты акіян.

#### 5. Гандлёвая гавань.

Калі мы прачнуліся зранку, наш карабель павольна разварочваўся на месцы. Сьвяціла сонца. Мы выйшлі на палубу, й з усіх бакоў убачылі сьпічастыя зялёныя дахі.

Гэта быў Капэнгаген.

**(Працяг будзе).**

## Удалы старт

Чатыры гульні запар у адборачным туры чэмпіянату Эўропы па гандболе правяла ў манежы спорткомплекса «Уручча» зборная Беларусі. Вынік — дзьве перамогі з лікам 43:14 і 31:22 над гандбалістамі Балгарыі, нічыя са зборняй Харватыі 23:23 і ў заключным паядынку з фінамі таксама перамога.

Як на дэбют, гэты вынік можна лічыць удалым. Але, каб трапіць у фінал чэмпіянату кантынэнта, трэціць ачкі болей нельга.

**Г. У.**

## «Нёман» збаўляе абароты

Захапіўшы лідэрства ў стартавых гульнях адкрытага чэмпіянату Расеі ў групе «Поўнач — Захад», гарадзенскі хакэйны клюб «Нёман» нечакана прайграў у гасьцях хакэістам «Комінафта» (Ніжні Арэс) у дзьвух гульнях 4:3 і 5:3. Няўдача пакуль што не адбілася на турнірным становішчы гарадзенцаў, але пройгрыш павінен насьцярожыць нашых хакэістаў, што лёгкіх гульняў не бывае.

**Г. У.**

